







# БЕЛАРУС

№435 • Чэрвень 1996г.
Год выд. 45

BIELARUS / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $3.00

## БЕЛАРУСКІ ПРАТЭСТ СУПРАЦЬ ДЫКТАТАРСКАГА РЭЖЫМУ ПРЭЗЫДЭНТА ЛУКАШЭНКІ





*Фрагмэнты дэманстрацыі перад Беларускай Амбасадай*

фота: В. Мельяновіч, А. Сільвановіч.

5-га чэрвеня беларусы-амэрыканцы пратэставалі ў Вашынгтоне супраць пагвалчаньня людзкіх правоў у Беларусі, ўзрастаючае дыктатарскае ўлады прэзыдэнта А. Лукашэнкі ды ягоных намаганьняў уцягненьня Рэспублікі Беларусь у Расейскую Імпэрыю. Беларусы-амэрыканцы арганізаваныя ў кааліцыю супрацьдзеяньня зьехаліся ў Вашынгтон зь Нью Ёрку, Нью Джэрзі, Пэнсыльваніі, з гораду Вашынгтону ды прылеглых штатаў Мэрыленд і Вірджынія. У часе дэманстрацыі да дэманстрантаў далучыліся прадстаўнікі Амэрыканскіх Прафсаюзаў (AFL-CIO), якія выказвалі пратэст супраць прэзыдэнта Лукашэнкі — ягонае забароны свабодных прафсаюзаў, ды колькі амэрыканскіх і беларускіх студэнтаў сталічных унівэрсытэтаў.

Кааліцыя ў Абарону Дэмакрацыі і Людзскіх Правоў у Беларусі, спонсар дэманстрацыі, арганізацыя, якая была створаная мінулай восеньню ў Нью Ёрку, правяла пасьпяховую дэманстрацыю пратэсту супраць прыезду прэзыдэнта Лукашэнкі на Асамблею Арганізацыі Аб'едненых Нацыяў у кастрычніку летась ды выдрукавала і разаслала некалькі мэмарандумаў аб палітычнай сытуацыі ў Рэспубліцы Беларусь.

Дэманстрацыя ў Вашынгтоне адбывалася перад будынкам амбасады Рэспублікі Беларусь, дзе дэманстранты «узброеныя» дзесяткамі транспарэнтаў і беларускімі нацыянальнымі сьцягамі уголас выказвалі патрабаваньні: «Свабоду Ю. Хадыку й В. Сіўчыку», «Далоў дыктатуру Лукашэнкі», «Беларусь так — лукашызм НЕ!», «Свабоду Вольным прафсаюзам», «Свабоду нашым украінскім прыяцелям», «Няхай жыве свабодны друк» ды ўсьцяж паўтаранае «Жыве Беларусь». У часе дэманстрацыі перад беларускай амбасадай выступілі таксама з адпаведнымі інфармацыямі-прамовамі сын Юрыя Хадыкі – Аляксей, які ў тым часе быў у Вашынгтоне ў навуковай камандыроўцы, д-р Вітаўт Кіпель (скарот выступу выдрукаваны пабач), д-р Ян Запруднік, сп. Юрка Каліна – дасьледчык-гісторык зь Беласточчыны, ды прадстаўнік амэрыканскіх прафсаюзаў сп. Дан Розэнблюм.

Гэтаксама былі дадзеныя інтэрв'ю для прэсы ды радыё Свабода і Вольная Эўропа і мясцовым сродкам інфармацыі, кантакты зь якімі мае стала сп. Васіль Мельяновіч, прадстаўнік шматлікіх беларускіх арганізацыяў у рэгіёне Вашынгтону.

У поўдзень, прадстаўнікі Кааліцыі — д-р Ян Запруднік, Расьціслаў Завістовіч і А. Сільвановіч, у суправаджэньні прадстаўнікоў амэрыканскае адміністрацыі, увайшлі ў сярэдзіну амбасады ды перадалі Другому сакратару амбасады сп. Аляксандру Астроўскаму пэтыцыю са скаргамі і дамаганьнямі беларуска-амэрыканскае дыяспары да сёньняшняга рэжыму ў рэспубліцы (друкуецца побач).

Папаўдні беларуская дэманстрацыя прадўажалася перад сядзібай-гігантам Расейскае Фэдэрацыі (былой амбасады СССР). Дэманстранты дружна скандавалі: «Далоў расейскі імпэрыялізм», «Ельцын, калі ласка забяры Лукашэнку», «Нам ня трэба старэйшага брата», «Рукі прэч ад Беларусі», і заўсёдняе «Жыве Беларусь». Калі-ж прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў былі дапушчаныя ў памешканьне расейскае амбасады і зажадалі перадаць расейскаму паслу беларускія дамаганьні, расейцы разгубіліся, спачатку тыя дамаганьня меркавалі ўзяць, але патэлефанаўшы «некуды вышэй» раздражнена прагаварылі: «нічего не брать, нет, нет, нет». Пэтыцыя-дамаганьні амбасадару Варанцову былі высланыя заказной поштай! Дарэчы, дэманстрацыя перад расейскай амбасадай праходзіла як бы ў «спэц. зоне»; пікетаваць дазвалялася толькі пятнацём асобам зараз (паліцэйскія за гэтым уважна сачылі і лічылі!), рэшта дэманстрантаў мусіла быць на другім баку вуліцы. Пры ўезьдзе ў двор амбасады былі зачыненыя масыўныя мэталёвыя брамы-краты, а перад брамай быў узьняты шаравы бар'ер, накшталт супрацьтанкавых загароджаньняў.

Беларуская палітычная дэманстрацыя у Вашынгтоне задакумэнтавала пазыцыю беларусаў-амэрыканцаў у Дзяржаўным дэпартамэньце, сярод амэрыканскіх палітыкаў і шырокага грамадзтва.

**Аляксандар Сільвановіч**

### Нашая мэта — незалежная дэмакратычная Беларусь... Мы пратэстуем супраць палітыкі зьнішчэньня беларускае дзяржаўнасьці і русыфікацыі...

Усяго толькі пару год таму, мы з гонарам падымалі наш бел-чырвона-белы сьцяг, зь вялікім маральным задавальненьнем удзельнічалі ва ўрачыстай падзеі адчыненьня ў Вашынгтоне Беларускае Амбасады, у краіне дзе асялілася панад паўмільёну нашых землякоў. Беларуская Амэрыка шчыра вітала прадстаўніцтва Беларускае Дзяржавы ды, наколькі магла, наладжвала супрацоўніцтва, спрыяла кантактам, дапамагала...

Нажаль падзеі пайшлі іншым шляхам, не беларускім нацыянальным. У выніку — Беларусь ня шукае кантактаў з Амэрыкай і Захадам, а прэцца на ўсход, у Расею. Паміж Беларускай Амэрыкай і сёньняшнім беларускім урадам супрацоўніцтва няма і ня можа быць. Устанаўленьне савецкага сьцягу, праводжаньне старое савецкае эканамічнае, ды беларуска-ненавісьніцкае царскае палітыкі перарывае магчымасьць супрацоўніцтва. Але, як і раней Беларуская Амэрыка будзе ісьці сваім шляхам да адраджэньня дэмакратычнае беларускае дзяржавы з нацыянальным бел-чырвона-белым сьцягам. І мы упэўненыя, што надыйдзе час, калі зялёна-чырвоныя колеры над гэтым будынкам будуць замененыя на беларускія нацыянальныя бел-чырвона-белыя сьцягі, а Беларускае Прадстаўніцтва ў Амэрыцы будзе рэпрэзэнтаваць беларускую нацыянальную дзяржаву.

Жыве Беларусь!

*(З прамовы Вітаўта Кіпеля)*

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## Coalition in Defense of Democracy and Human Rights in Belarus

### ЗАЯВА*

*Як беларусы Злучаных Штатаў глядзяць на апошнія падзеі ў Беларусі?*

Беларусы ЗША, якія належаць да розных беларуска-амэрыканскіх арганізацыяў і розных веравызнаньняў, з занепакаеньнем сочаць ход падзеяў на Беларусі ад часу, калі прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь стаўся ў ліпені 1994 году Аляксандар Лукашэнка. Лукашэнка павярнуў рэзка ў адваротны бок ход культурнага разьвіцьця ў Беларусі, якое да ягонага прэзыдэнцтва ішло ў кірунку адраджэньня нацыянальнай культуры і аднаўленьня поўнапраўнае ролі беларускае мовы. Лукашэнка за ўвесь час свайго прэзыдэнцтва ані разу ня выказаўся прыхільна пра беларускую мову і ролю нацыянальнае культуры ў адбудове беларускае дзяржаўнасьці. Наадварот, ён дазволіў сабе са свайго высокага становішча абсьмяяць беларускую мову як мову «бедную».

Пад уплывам пагардлівага стаўленьня прэзыдэнта і ягонага акружэньня да беларускае мовы, факт прызнаньня майскім (1995 г.) рэфэрэндумам расейскай мове *роўнага статусу* з мовай беларускай выкрыўлены нізавымі чыноўнікамі і прыпаднесены грамадзтву як факт адмаўленьня ад беларускай мовы. Рэфэрэндум па моўным пытаньні набыў такім чынам антыбеларускі характер і прывёў да таго, што нацыянальная мова страціла нават тыя сьціплыя пазыцыі, якія здабыла за першыя гады незалежнасьці. Школьная і выдавецкая статыстыка 1995 году красамоўна сьведчыць пра гэтыя страты.

За зьдзекам над беларускай моваю з боку афіцыйных уладаў пайшоў гвалт прэзыдэнцкае адміністрацыі, часта з парушэньнем заканадаўства і Канстытуцыі, над сродкамі масавай інфармацыі, свабоднымі прафсаюзамі, звычайнымі грамадзянамі, парлямэнтарыямі і нават Канстытуцыйным судом.

Выкрыўленьне вынікаў майскага рэфэрэндуму ня спынілася на мове. За здачай аднаго з найгалоўнейшых кампанэнтаў культурнага адраджэньня, нацыянальнай мовы, прыйшла чарга на дзяржаўнасьць. Беларуска-расейскі дагавор ад 2 красавіка 1996 году гаворыць — са спасылкай на майскі рэрэфэндум — пра *«глыбока інтэгрыраванае палітычна і эканамічна Супольніцтва Беларусі і Расіі»*, тымчасам як у рэрэфэндуме тым пытаньне было толькі пра «эканамічную інтэграцыю».

Беларусы Амэрыкі блізка сочаць ход падзеяў на Бацькаўшчыне і жахаюцца ад таго, што вырабляе з уладаю прэзыдэнт Лукашэнка. Шмат хто зь іх адчувае сёньня падобна да тае беларускае пэнсіянэркі Ларысы Шыловіч, якая напісала пра Лукашэнку ў газэту «Свободные новости–плюс» (#18, май 1996 г.) /пераклад з расейскае/: «Але мы памыліліся, даверыўшы лёс свае краіны чалавеку, якому чужое ўсё беларускае. Я часта думаю: як мог у беларускай вёсцы нарадзіцца чалавек, які не шануе свае краіны, ейных традыцыяў, культуры, мовы. І пасьля зрабіла высноў — для яго ўлада найвышэй за ўсё». Пытаньне толькі, якая карысьць ад гэтай улады, калі нацыянальная культура, а зь ёй і эканоміка бязупынна ідуць наніз? І гэтае падзеньне прывяло ўжо да расколу беларускага грамадзтва, як пра гэта сьведчаць падзеі апошніх двух месяцаў. Аргумэнт беларускіх уладаў перад заходнімі інвэстытарамі, што Беларусь — краіна стабільнасьці, пачынае траціць сваю пераканальнасьць.

***Што беларусы Злучаных Штатаў будуць рабіць, калі дасюлешняя палітыка адміністрацыі прэзыдэнта Лукашэнкі будзе працягвацца?***

Амэрыканскі палітычны лад і традыцыі даюць шырокія магчымасьці прыватным грамадзянам і няўрадавым арганізацыям камунікавацца як з органамі ўлады, гэтак і шырокімі грамадзянскімі коламі. Калі ў 1991 годзе стварыліся ў Беларусі ўмовы свабоднага наведваньня краіны ды паўсталі магчымасьці прыватных кантактаў і супрацоўніцтва па розных кірунках, беларусы Амэрыкі актыўна падключыліся перш-наперш да справы дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі, а таксама супрацоўніцтва з культурнымі і навуковымі ўстановамі. Гэтае супрацоўніцтва, як і чарнобыльская справа, у меру магчымасьцяў беларуска-амэрыканскага грамадзтва і стаўленьня з боку Рэспублікі Беларусь будуць працягвацца далей. Але разам з гэтым амэрыканскія беларусы будуць уздымаць трывогу і падаваць да агульнага ведама інфармацыю пра заціск свабоды ў Беларусі, парушэньні там правоў чалавека і ўмацоўваньне дыктатуры. Беларусы Амэрыкі будуць далей трымаць цесную лучнасьць з кіраўніцтвам амэрыканскіх прафсаюзаў, інфармаваць яго аб падзеях, што закранаюць правы працоўных Беларусі і справу іхнай міжнароднай салідарнасьці.




*Кантынгент дэманстрантаў зь Нью Джэрзі, Нью Ёрку, Пэнсыльваніі*



*Пікетаваньне Расейскай Амбасады*



*Зьлева направа А. Хадыка, Я. Запруднік, А. Шукелойц, В. Цярпіцкі, С. Бесараб, В. Кіпель* фота: Н. Запруднік, В. Мельяновіч.

Праз сваіх кангрэсмэнтаў і сэнатараў, а таксама іншых вядомых палітыкаў, беларусы Злучаных Штатаў будуць дамагацца адпаведных дзеяньняў амэрыканскіх уладаў ня толькі ў двубаковых амэрыканска-беларускіх дачыненьнях, але й на міжнароднай арэне, з мэтай умацаваньня незалежнасьці Рэспублікі Беларусь ды палепшаньня аховы правоў чалавека і правядзеньня дэмакратычных рэформаў.

Разам з усім гэтым беларусы Амэрыкі будуць клапаціцца пра долю Беларусі, ейнае адраджэньне, дабрабыт і свабоду. Будуць жадаць беларускаму народу вытрываласьці, посьпехаў у працы і ў выбары мудрага кіраўніцтва, якое дбала-б пра росквіт беларускай дэмакратычнай дзяржаўнасьці, адбудову цесна ўзаемазьвязаных эканомікі і культуры ды наладжваньне прыязных дачыненьняў і супрацоўніцтва з усімі суседнімі краінамі.

**Аляксандр Сільвановіч, Ян Запруднік,**
**сустаршыні Кааліцыі**

*уручаная Беларускай Амбасадзе

## ВОСЬМАЕ ПАЛОМНІЦТВА ДА БЕЛАРУСКАГА КРЫЖА І АСЬВЯЧЭНЬНЕ МЭМАРЫЯЛЬНАЕ ТАБЛІЦЫ ПАМЯЦІ ПАКУТНІКАЎ БЕЛАРУСІ

Думка, ўзьнесьці ля Беларускага памятнага Крыжа ў прошчы ў Мідлянд, Канадзе, мэмарыяльную таблiцу памяці ахвяраў камуністычнага тэрору ў Беларусі, дасьпела ў 1994 годзе, а праца над праектам завяршылася 1 чэрвеня, 1996 году, восьмым паломніцтвам і асьвячэньнем памятнай таблiцы.

### АДКРЫЦЬЦЁ МЭМАРЫЯЛЬНАЙ ТАБЛІЦЫ





*Группа паломнікаў: зьлева направа — Р. Жук-Грышкевіч, В. Кіпель, М. Ганько, З. Кіпель, Ф. Бартуль, Э. Пашкевіч, Ю. Каліна.* **Фота К. Вініцкая**

**ПАМЯЦІ АХВЯРАЎ КАМУНІСТЫЧНАГА ТЭРОРУ**

***Сотні тысяч нявінных ахвяраў расстрэляных у Курапатах, сотні тысяч беларускіх навукоўцаў, пісьменьнікаў, паэтаў, сялян і работнікаў замучаных у савецкіх астрогах, лягерох Варкуты, Калымы і Салаўкоў. Курапаты — дарога сьмерці сталася сымбалям генацыду беларускага народу, дакананага над ім палітыкай Савецкага рэжыму.***

Паломнікі з Эўропы, ЗША, Брытанскай Калюмбіі й Квэбэку зьехаліся ў Бэры, Антарыё, 31-га травеня, каб назаўтра вырушыць у прошчу. Там чакаў на іх на ўзгорку, упрыгожаны Слуцкім паясам і Менскім льняным ручнікам, Беларускі Крыж, а побач яго на валуне, завершаным Еўфрасіней-скім крыжам, заслонена бел-чырвона-белым сьцягам мэмарыяльная табліца Памяці ахвяраў камуністычнага тэрору ў Беларусі. Абапал беларускі памятны комплекс ушаноўвалі бел-чырвона-белы й канадыйскі сьцягі.

У 10:30 раніцы ў сьвятыні прошчы айцец Аляксандар Надсон пачаў адпраўляць Сьв. Літургію.

Пасьля Багаслужбы працэсія падня-лася на ўзгорак да Беларускага Крыжа й мэмарыяльнай таблiцы. Акафістам Найсьвяцейшай Багародзіцы ўслаўлялі мы Маці Божую.

Каля Беларускага Крыжа айцец Надсон даручыў Старшыні ККБК адсланіць мэмарыяльную таблiцу, ды маліцвай (ягонае рэдакцыі):

«...Мы, слугі Твае... просім Цябе глянуць ласкава на гэтую памятную таблiцу, аценёную Крыжам Тваім сьвятым, пастаўленую на ўспамін пра ўсіх верных сыноў і дачок беларускага народу, якія нявінна цярпелі перасьлед і мучэньні ў вязьніцах, на катаржных работах і на выгнаньні ад Тваіх і нашых ворагаў, і якіх аддавалі на лютую сьмерць... хай іхняя ахвяра ня будзе дарэмнаю, але, як тое зерне, прынясе багаты плён справядлівага міру, свабоды і шчасьлівай будучыні для ўсяго беларускага народу... А ім самім дай вечны супакой і шчасьце сузіраць Аблічча Тваё...»

Паніхіду за усіх пакутнікаў беларускага народу завяршыў агульны напеў — «Вечная памяць!».

У сваёй удумлівай прамове др. Вітаўт Кіпель, зрабіў агляд як ушаноўваюць беларусы сваіх землякоў за межамі Беларусі (гл. зацемку).

Песьняй «Сьпі пад курганам героў...» і гімнам «Магутны Божа» закончылася малітоўная частка ўрачыстасьці.

Старшыня ККБК й Камітэту праэкту мэмарыяльнае таблiцы др. Раіса Жук-Грышкевіч дзякавала паангельску й пабеларуску айцу Аляксандру Надсону, Апостальскаму Візытатару для Беларусаў, айцу Джэймс Фаррэл, дырэктару прошчы ды сьвятаром з прошчы, што брали ўдзел у нашых урачыстасьцях. Выказала шчырую падзяку прамоўцу др. Вітаўту Кіпелю, усім ахвярадаўцам із ЗША, Эўропы, Аўстраліі й Канады, прысутным, а асабліва нашым сябром з далёкіх краін: а. А. Надсону з Англіі, гісторыку Юрку Каліну зь Беластоку; сп-ні Каці Вініцкай зь Лёс Анджэлес, спадарству Франьцішу й Веры Бартулям зь Нью Ёрку, спадарству Вітаўту й Зоры Кіпелям зь Нью Джэрзі, сям'і Анатоля — старшыні Згуртаваньня Беларусаў у Квэбэку — і Крыстыны Храноўскіх з Мантрэалю, Эве Пашкевіч-МэКарвіл з Брытыйскай Калюмбіі, ды й Антарыйцам з Пэры Саунд, Гамілтану, Ашавы, Таронта.

Шчырая падзяка прысутным спадарыням Бэрнардэце Мэрдок і Маргарэце Кэлі і іхнім сем'ям за сталую маральную й фактычную падтрымку й дапамогу ў арганізацыі ўсіх васьмі паломніцтваў да Беларускага Крыжа.

Дзякавала сябром Камітэту мэмарыяльнай таблiцы: спадарыням Каці Вініцкай й Івонцы Сурвілла; фатографам: Янку Сурвіллу, Джону Лявіолет.

Спадарыня Вэраніка Каткавічанка-Клентэк, калісь сяброўка Саюзу Беларускай Моладзі, з Вроцлава, з прывітаньнем удзельнікам, перасылае й просьбу, у часе ўрачыстасьцяў успомніць імёны ахвяраў сталінізму зь ейнас сям'і, а гэта: дзьве сястры, Анелька, калісь сяброўка Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні, і Галена, два браты, яна і ейны сын, што памёр у ссылцы. Беларускі мастак з Парыжа Міхась Наўмовіч просіць успомніць імя ягонага сябры Янкі Філістовіча, які ў 1953 годзе, у веку 28 гадоў, загінуў «ад кулі бальшавіцкіх забойцаў».

Сьвятар зь Індыі, які у галаве працэсіі нёс крыж, ад імя дырэктара прошчы, айца Джэймс Фаррэл, вітаў беларускае паломніцтва й выразіў сваё асабістае задаваленьне з таго, што ён быў удзельнікам такой важнай урачыстасьці.

Затым прысутныя складалі перад мэмарыяльнай таблiцай кветкі гвазьдзікаў, каб у гэткі спосаб падкрэсьліць сваю пашану памяці пакутнікаў Беларусі, а спадарыні Вера Бартуль, Каця Вініцкая й Зора Кіпель зь белых і чырвоных кветак улажылі перад манумэнтам бел-чырвона-белы сьцяг.

Пасьля 3-ай гадзіны дня паломнікі із ЗША сьпяшаліся ў далёкую дарогу. З Богам, да наступнага паломніцтва!

**Раіса Жук-Грышкевіч**

*У часе гэтае падзеі зь Менску прыйшло прывітаньне ад навукова-грамадзкага цэнтру «Беларуская перспектыва» наступнага зьместу:*

*Мы ўдзельнікі навуковае канфэрэнцыі, арганізаванае «Беларускай перспектывай», вітаем удзельнікаў урачыстасьці асьвячэньня мэмарыяльнае дошкі памяці ахвяраў камуністычнага тэрору ў Беларусі. Мы ўпэўненыя, что памяць пра людзей, якія былі замучаныя й зьнішчаныя бальшавіцкім рэжымам дапаможа нам усім больш годна і пасьлядоўна дамагацца забясьпячэньня людзкіх правоў у Беларусі ды будаваць нацыянальную дзяржаву.*

*Подпісы: В. Голубеў, П. Лойка, У. Конан, А. Невяроўскі, А. Кіштымаў, Л. Пеціна, М. Міцкевіч, З. Шыбека, Д. Карпаў, В. Грыцкевіч, В. Трыгубовіч, і інш.*

## БЕЛАРУСКІЯ ПОМНІКІ

*(урыўкі з прамовы Вітаўта Кіпеля)*

Далёка ў Сібіры, на падступах да Калымскага краю, стаіць помнік нашаму земляку, адкрывальніку багацтваў Сібіры, зьняволенаму царскага рэжыму, паўстанцу 1883 году Івану Чэрскаму. Ёсьць помнік нашаму зямляку, адкрывальніку мінэральнае скарбніцы Чылі Ігнату Дамэйку, гэтаксама паўстанцу супраць царызму. У падножжы Альпаў, каля гарадку Мітэнвальду стаіць помнік Слуцкім Змагаром. Так, шмат помнікаў выдатным сыным Беларусі раскідана па сьвеце. Амаль усе яны выступалі супраць паняволеньня нашае бацькаўшчыны Расеяй. А сама бацькаўшчына, будучы пад расейскай акупацыяй, помніка паставіць ня мела магчымасьці.

Не ўшанавала бацькаўшчына і ахвяраў бальшавіцкага рэжыму. А якраз гэты, бальшавіцкі адрэзак акупацыі Беларусі нанёс нам найболей зла, ахвяраў. Дастаткова будзе прыпомніць верш Т. Лебяды «Ой пралягла чыгунка за Байкалам, раўнюсенька нібы абрус, але-ж на ёй, амаль пад кожнай шпалай ляжыць замучаны ў выгнаньні беларус». Ахвяраў гэтага безчалавечнага рэжыму ў нас на Беларусі — мільёны. А помніка ім няма. Нават у нядаўнія часы адлігі, заклапочаныя штадзённым жыцьцём, няяснай будучыняй, ні грамадзтва, ні ўлады помніка ахвярам бальшавізму не паставілі. Нават справа не дыскутавалася! Ну, што-ж, так як і ідэя незалежнасьці і нацыянальная сымболіка перахоўваліся на эміграцыі, гэтак паза Беларусьсю мы будзем ставіць помнікі ахвярам чужацкага панаваньня. Будзем ушаноўваць нашых суродзічаў за межамі бацькаўшчыны да часу, пакуль на нашай зямлі ня будуць ім пастаўленыя сапраўдныя Помнікі Славы, да часу калі ў Менску ня будзе створаная Беларуская Плошча Перамогі.

# АГЛЯД КНІГАЎ

## ЧАС ЛУКАШЭНКІ

Днямі зь Беларусі атрымалі ліст. Не падаючы імя рэспандэнта, хачу зацытаваць асобныя мясьціны: «Кожны дзень пачынаецца для мяне з навінаў ад калег і знаёмых. На нашых вачах паўстае, матэрыялізуецца той самы прывід камунізму ў абліччы лукашызму. Ужо стаіць пытаньне аб звальненьні выкладчыкаў ВНУ, якія не падтрымліваюць Лукаша. Пра гэта сказаў сам Лука. На 25 Сакавіка мы вывесілі сьцяг за акно. Пасьля гэтага жонка баіцца стуку ў дзьверы, а да мяне вярнулася амаль забытае пачуцьцё — пачуцьцё прысутнасьці бальшавізму, таго самага — варожага ўсяму беларускаму.

Пры ўсіх мінусах сёньняшней сытуацыі назіраюцца і нязначныя ў параўнаньні з пагрозаю плюсы: 1. За апошнія пяць гадоў вырасла пакаленьне, якое лічыць, што іх радзіма не СССР, не СНД, а Беларусь. Яны і выйшлі 2 красавіка. 2. Савецкае і беларускае яшчэ не былі ў такой канфрантацыі, як зараз. Тлумачу: усе гады саветы падтрымлівалі сяк-так беларускі афіцыёз, адсюль народныя пісьменьнікі, вышываныя ручнікі і г.д. Сёньня-ж заігрываньне скончылася, і ўлада выразна сказала вуснамі «самага разумнага»: «Хваціт дурыць народ!» Што азначае: «гэты язык нікаму нянужан». А што існуе нешта апроч «языку», ён і не здгадваецца. Нашыя дэмакраты, якія ва ўпор не хацелі бачыць ніякіх «нацыяналістаў», цяпер сьцямілі: адзіная дэмакратычная масавая сіла — беларускі рух. А яшчэ пару месяцаў назад яны пасьмейваліся ў кулачок: у адносінах да беларушчыны яны займалі да апошняга часу прыкладна тую-ж пазыцыю, што і Лука. Аднак прыцісьнула.

У газэтах, на тэлебачаньні цэнзура на ўзроўні часоў СССР. Нічога нельга. Аднак газэты «Свабода» не дакупіцца — расхопліваюць. Вось дзень пры дні чакаем, што і яе забароняць. Пра менскія падзеі людзі па-за Менскам практычна нічога не ведаюць, поўная інфармацыйная блякада.

Пару тыдняў таму сабраўся я ў навукова-мэтадычны цэнтар падручнікаў і навучальных дапаможнікаў і быў вельмі засмучаны: няма грошай, найперш на беларускую літаратуру, нават тыя кнігі, што ўжо аддрукаваныя, ляжаць у друкарні, але няма грошай забраць іх. А кнігі там рыхтуюцца да друку па тры-чатыры гады, значыць, выходзяць яны, калі выходзяць наагул, у пэўнай меры, састарэлыя. Лука прыдумаў экспэртную камісыю для гуманітарных выданьняў. Фактычна — Главліт. Вельмі жорсткая цэнзура. Адным словам, нічога значнага беларускага за Лукою выходзіць ужо ня будзе. Я пра навучальную літаратуру. Наконт мастацкай, то дзяржаўныя выдавецтвы маюць грошы толькі на жабрацкі заробак сваім супрацоўнікам і няма чаго казаць пра выданьне нейкіх там кніжак. Таму ўсё, што зараз з'яўляецца па-беларуску — альтэрнатыўнае ўладзе, у тым ліку і ў сэнсе фінансаваньня».

*На шлях, па далячынь упаў страшэнны морак.*
*На Беларусі — ноч. Ні месяца, ні зорак.*
*Нямая цемра скрозь. Мой смутак не сьціхае:*
*На Беларусі — ноч, маркотная, глухая.*

А гэта ўжо радкі зь вершу В. Жуковіча. Вершы зьмешчаны ў часапісе «Полымя», нумар першы за гэты год — і першы нумар, які нарэшце патрапіў да нас. Чытаю яго — і нечарэчна радуюся, што той самы Лука ня цікавіцца беларускай літаратурай, не зазірае ў беларускамоўныя літаратурныя часапісы і не даручае рабіць тое сваёй тусоўцы. Бо інакш мы не прачыталі-б у тым самым нумары «Полымя» верш Рыгора Барадуліна — няхай сабе і не зусім дасканалы мастацка, але, ва ўмовах сёньняшней Беларусі, Беларусі часоў Лукашэнкі, верш-учынак. Верш, які называецца «Спадар генерал»:

*Булак-Булаховіча бацькам*
*Завуць вяры.*
*Спадар генерал*
*Закаханы рашуча ў Дзяржаву.*
*Пакуль што замерваюць*
*Ейныя межы вятры,*
*Дзяржаву вітае*
*Цыганскае сонца ўгары.*
*І верш генеральскі*
*Змушае задумацца славу.*
*На небе ратайна бярэцца*
*Сузор'е Сяўня.*
*Як сьцяг беларускі,*
*Балюча зара дагарае.*
*І чуе легенда,*
*Як поўніць нутро вышыня.*
*Балюткая зорка ўзыжодзіць*
*На лабасхіле каня.*
*Яна не спакорыццаі*
*Чырвоназоркавай зграі!*

Большую частку нумару займае раман, дакладней, ягоны першы разьдзел, з вымучанымі, псыхалягічна нявывераньмі дыялёгамі і ўчынкамі герояў, але той раман пра падзеі напрыканцы вайны ва акупаваным Менску, на Беларусі, дзе жывуць і дзейнічаюць героі — савецкія салдаты і «калябаранты». Напэўна, твор грунтуецца ня толькі на падставе дакумэнтаў Другога Усебеларускага Кангрэсу, шчодра цытаваных (без спасылак), але й на ўспамінах, аповядах удзельнікаў. Адзін з галоўных герояў раману ўжо знаёмы з папярэдніх твораў пісьменьніка Масей Зазыба. Напачатку вайны ён рашуча адхіліў прапанову свайго былога сябры стаць у шэрагі беларускіх нацыяналістаў, якія ўзяліся за адраджэньне роднага краю. Тады ён палічыў, што іх дзейнасьць 'ня добра пахне' (раман «Свае і чужыя», Менск, 1984, с. 298). Новы раман пісьменьніка клаўся на паперу ў новых умовах, таму нясе адбітак і новага часу: няма простых выпадаў супроць 'нацдэмаў', 'калябарантаў'; генерал, што адбыў пакараньне ў Сібіры, але заклiканы Чырвонай Арміяй; штрафныя батальёны, якімі гацілі пад Масквой; ня зусім ружовыя партызаны (праўда, пасьля вершу Л. Геніюш усё выглядае знаёмым, толькі больш бляклым) і г.д. Новы Масей ужо перакладае малітвы на беларускую мову, праўда, па ініцыятыве папа Дворскага, які гаворыць: «Чаму ж я тады па руску гавару? Ды таму, што царкоўная служба вымагае. У праваслаўнай царкве ў нас альбо стараславянская мова ў абавязковым ужытку, альбо на горшы выпадак — цяперашняя руская. Па-беларуску службы ў царкве не адпраўляюць... А мне хацелася б слухаць службу ў сваёй царкве па-беларуску».

У рамане багата таго, што было для аўтара новым-дазволеным. Напрыклад, тэма ўласаўцаў, дакладней, допыт аднаго лётчыка, які атрымаў загад бамбіць лягер савецкіх ваеннапалонных і ня выканаў яго. Лётчык перайшоў да ўласаўцаў з самалётам, але пасьля ўсё-ж трапіў савецкім ворганам. І як гаворыць генерал: «Словам, чаго можна чакаць ад нягодніка? Яму няўцям нават, што заданьне, якое атрымаў ад камандаваньня, заключалася... Трэба было зьнішчыць патэнцыяльных ворагаў!» У часе чытаньня твора падаецца, што аўтар недзе падзяляе, як рабіў заўсёды, «генеральную» лінію.

Першы разьдзел рамана нібы вядзе да галоўнага: Другога Ўсебеларускага Кангрэсу. Ня выпісаныя аўтарам, але названыя «Наталка Арсеньнева», якую Масей «не любіў, прынамсі заўсёды пазьбягаў ейнай кампаніі», М. Шчаглоў, Е. Ясюк, Р. Астроўскі, Я. Кіпель, Л. Случчанін, з багатым цытаваньнем дакумэнтаў, усе яны быццам супрацьстаяць Масею як сьвядомыя барацьбіты з Чырвонай Арміяй, што, натуральна, аўтарам не ўхваляецца. А вось Зазыба — іншая справа, ён ахвяра, лёсу, Сталіна, зьбегу падзей. Асобнае мейсца адведзена паседжаньню сяброў Беларускай Незалежніцкай партыі (М. Зуй, І. Гінько, М. Рагуля). Аўтар ад імя гасьцей і дэлегатаў называе Кангрэс запозьненым вадэвілем, у вусны генерала ўкладае іншую назву: шабаш.

Публікацыя ў часапісе прадугледжвае працяг. Масей, разам са «здраднікамі», пакутуючы, едзе некуды на Беласточчыну, а ягоны бацька (другая асноўная лінія твора) глядзіць парад партызанаў, толькі ўчора хварэўшых на панос, але якія сёньня «ішлі ў калоне нясьпешна і тупка, усё роўна як і не было ў лягеры на Ляхаўцы нядаўней хваробы».

Дарэчы, вобраз Масея Зазыбы цікавы яшчэ адным: «Хацеў бы мець трылогію Івана Чыгрынава. «Плач перапёлкі» я чытаў — таленавітая кніга. Добра было і займець і далейшыя кнігі, балазе ёсьць там у іх Масей, кажуць, пісьменьнік (дарэчы, мой зямляк) браў мяне як прататыпа» (Зь ліста М. Сяднёва да Л. Пранчака. «Масеева кніга», Менск, 1994, с. 100).

Зь іншых публікацыяў, якія нельга абмінуць, аповесьць Я. Баршчэўскага «Душа не ў сваім целе» у перакладзе М. Хаўстовіча, артыкулы З. Дзядзенкі «Ад Маладняка» да «Узвышша» і К. Мароз «Талент віленскага крытыка». Між іншым, у апошнім артыкуле аўтарка распавядае пра А. Луцкевіча і піша: «Аднак *прыйшоў час* з поўнай аб'ектыўнасьцю аддаць належнае ўкладу А. Луцкевіча». Можа, сапраўды зараз прыйшоў час? Можа, ня ўсё гэтак блага? Трэба толькі сілы, як піша яшчэ адна аўтарка «Полымя» З. Падлінская:

*О Беларусь! Рамонкам белакрылым*
*Ты прарасла у сэрцы незаўжды.*
*І дай нам, Бог, знайсьці, нарэшце, сілы,*
*Каб вызваліць свой край зь нямой бяды.*
*Дай годнасьці, каб уваскрэсла слова,*
*Не апускаць ад сораму вачэй,*
*Каб не стагнала беларусаў мова*
*Гаротнай падчаркай сярод дзяцей.*
*Дай мужнасьці, сапраўднай дай адвагі*
*Прачнуцца ад сьляпога забыцьця,*
*Адкрыць нам вочы, горкім бедалагам.*
*Дай сілы, Бог, а значыць — дай жыцьця.*

**Лявон Юрэвіч**

**Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне**
**Згуртаваньне Беларусаў Канады**

паведамляюць што
22-я Сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі
адбудзецца сёлета ад 31-га жніўня да 2-га верасьня
ў Клііўлендзе, на селішчы «Полацак»
*11022 Webster Rd. Strongsville, Ohio 441236*
*Tel: 216-238-3842, Fax: 216-238-9806*

**Тэмы сустрэчы:**

***Абарона дзяржаўнасьці і дэмакратыі Беларусі***
***200-годзьдзе гораду Клііўленду***

Дакладная праграма Сустрэчы будзе выдрукаваная
ў наступным нумары «Беларуса»

*ЗАМАЎЛЕНЬНЕ ГАТЭЛЯЎ*

Call toll free **1-800-843-7663**
Belarusian Convention B060000259
latest call by **8-17-96**

## МЫ Й САМІ ЯПОНЦЫ

Газэта USA TODAY (13 мая) свой дадатак OUR WORLD гэтым разам цалкам прысьвяціла Беларусі. Галоўныя тэмы нумару, вынесеныя на першую старонку — «Падпісаньне дагавору бліжэй злучае Беларусь з Расеяй», «Дзесяць гадоў пасьля Чарнобыля». Газэта называе факт падпісаньня пакту найбольш важкім за ўсе апошнія гады крокам па ўзнаўленьні СССР. Падаюцца таксама камэнтары да дагавору пасла ЗША ў Беларусі К. Ялавіча («Мы хочам бачыць Беларусь дэмакратычнай краінай з рынкавай эканомікай») і аналіз рэдакцыі «Назад у СССР?», галоўны матыў якога — нягледзячы на наяўнасьць апазыцыі цяперашняму рэжыму і палітыцы, беларусы не гатовыя плаціць высокую цану за свабоду і дэмакратыю. З далейшага інтэрв'ю Лукашэнкі дэлегацыі заходніх бізнэсмэнаў выглядае, што ён адкрыты да супрацоўніцтва з Захадам, выконвае ўсе міжнародныя абавязацельствы і згодны даць гарантыі замежнам інвэстарам. «Я даверяю замежным інвестарам болей, бо ўнутраны капітал, на жаль, мае пераважна крымінальныя карані», заяўляе Прэзыдэнт. Наступныя старонкі беларускага агляду аддадзеныя пад утапічныя выказваньні Прэм'ер-міністра і ягоных міністраў пра нябывала высокі кваліфікацыйны ўзровень беларускіх работнікаў і разьвітасьць прамысловай інфраструктуры. А міністр замежных спраў У. Сянько заклікае, што «у параўнаньні з астатнімі дзяржавамі былога Савецкага Саюзу, інвестыцыйны клімат у Беларусі без сумненьня найлепшы».

Разьдзелы Банкі, Сельская гаспадарка, Экспарт ніякага рэальнага агляду сытуацыі не даюць, а нагадваюць хутчэй рапарты пра выкананьне пяцігадовых плянаў, — кожны год усяго больш і лепшае. Чытачу можа стаць не зразумела, навошта Беларусі ўвогуле спатрэбіліся інвэстыцыі (?!), калі яна сама «магла б стаць Японіяй ва Усходняй Эўропе».

А мне не зразумела, навошта газэце USA TODAY спатрэбілася марнаваць каляровы друкарскі парашок на Патрыяршую кукарду і матрошак, калі галоўны колер падзей на Беларусі цяпер чырвона-карычневы.

**Алеся Сёмуха**

## ПАГРОЗА ЗАБАРОНЫ БНФ

4-га чэрвеня Міністэрства юстыцыі вынесла другое афіцыйнае папярэджаньне БНФ. Першае было вынесена 30 травеня пракурорам Менску М. Купрыянавым. БНФ абвінавачваюць у правядзеньні несанкцыяваных мітынгаў і пікетаў.

Пэрсанальныя папярэджаньні пракуратуры атрымалі дзеячы БНФ Ю. Хадыка і Сіўчык, якім пад пагрозай новага арышту рэкамэндуецца ўстрымацца ад публічных выступаў і заяваў, якімі згаданыя асобы паводле дакумэнту фармуюць «негатыйную грамадзкую апінію адносна сьледчых».

Паводле беларускага заканадаўства 2-х афіцыйных папярэджаньняў дастаткова, каб паставіць пытаньне аб скасаваньні рэгістрацыі грамадзкага аб'яднаньня.

Магчыма, 2 афіцыйныя папярэджаньні ў адрас БНФ маюць на мэце наступную дэлегалізацыю Беларускага Народнага Фронту.

## ЭЎРОПА СУМНЯВАЕЦЦА Ў БЕЛАРУСІ

Камісія замежных справаў Эўрапэйскага Парляманту 12-га чэрвеня выказалася за тое, каб адкласьці тэрмін зацьверджаньня падпісанай напрыканцы сакавіка пераходнай гандлёвай умовы паміж Эўрапэйскім Саюзам і Беларусьсю.

На пазыцыю Камісыі паўплывала справаздача пра сыстэматычнае парушэньне ўладамі Беларусі прынцыпаў дэмакратыі і правоў чалавека.

Канчатковае рашэньне будзе прымаць Рада Міністраў Эўрапэйскага Саюзу.

## АДАМОВІЧ СКАЗАЎ, ШТО ДУМАЛІ МНОГІЯ



Трэці месяц у сьледчным ізалятары КДБ трымаюць паэта Славаміра Адамовіча. Яму інкрымінуецца аўтарства і апублікаваньне ў Віцебскай газэце «Выбар» вершу «Убей президента». Паводле заключэньня КДБ, у вершы гучаць адкрытыя заклікі да фізычнага забойства прэзыдэнта Аляксандра Лукашэнкі. Па ходзе сьледства супрацоўнікі КДБ правялі вобыскі ў кватэры паэта ды ў рэдакцыях газэты «Выбар» і тыднёвіка «Наша Ніва», сканфіскаваўшы архіўныя машынапісныя матар'ялы, фатаздымкі і рукапіс новага паэтычнага зборніка паэта.

На працягу ўсяго часу утрыманьня Адамовіча за кратамі, да яго не дапускалі адваката, не дазвалялі кантактаў са сваякамі і журналістамі, не падавалі аніякай інфармацыі па ходзе сьледства ці стане здароўя фактычна зьняволенага. На мінулым тыдні, аднак, польская газэта "Nowy Dziennik" паведаміла, што Славамір Адамовіч абвясьціў сухую галадоўку. Праз колькі дзён яго ў стане клінічнай сьмерці перавялі ў турэмны шпіталь, але й тады прадстаўнікі КДБ адмовіліся афіцыйна падцьвердзіць ці абвергнуць яго сьмерць. Паводле апошніх паведамленьняў зь Менску, Славамір Адамовіч жывы, але знаходзіцца ў вельмі цяжкім стане ў шпіталі і галадоўку не спыняе. Як сказаў па тэлефоне рэдактор «Нашай Нівы» Сяргей Дубавец, якому дазволілі наведаць Адамовіча ў шпіталі: «ён ужо ў такім стане, што з цяжкасьцю фармулюе свае думкі».

Славамір Адамовіч — фактычна першы беларускі паэт і палітычны дзеяч (бо ён жа ёсьць лідэр нацыянальна-патрыятычнай арганізацыі «Правы рэванш»), які апынуўся за кратамі КДБ постсэсэсэраўскай Беларусі. Можна не сумнявацца, што ва ўмовах цяперашніх гвалту, дыктату і нематы, аніякага незалежнага суду ня будзе. Будзе прысуд! — Помста Лукашэнкі, што нарадзіўся ня рускім, што гаварыць ня ўмее, што сьмяецца зь яго і расейская і беларуская інтэлігенцыя, помста за ўсё нянавіснае беларускае. Помста КДБ — за Адамовічаву споведзь, за прызнаньне, што быў калісьці завербаваны, за тое, што перастаў баяцца і напісаў усё, пасьмяяўся.

Помста за тое, што Адамовіч сказаў тое, што думалі многія.

**Алеся Сёмуха**

***Славамір Адамовіч***

*з цыклю*
*«Русские стишата»*

### УБЕЙ ПРЕЗИДЕНТА

Убей эту сволочь, которая
так гнусно топорщит усы
над нашими всё же просторами,
над ликом родимой красы.

Чем можешь, убей, не раздумывай,
возьми автомат иль топор
и вскрой эту голову «умную»,
и выбрось в клоаку, как сор.

Убей эту мразь авторучкою,
иль зонтиком, или «пером»,
иль вовсе ма-а-аленькой штучкою,
подброшенной в терпкий ром.

Убей же врага, чтобы молодость
твоя не осталась в дерьме,
чтой Край наш воспрянул с
гордостью
во славе, а не в ярме!

Убей акуратно, дерзостно,
как может убить лиш Бог,
покончи геройски с мерзостью
и выкинь её за порог!

Очищенный дом белорусский наш,
проветренный, солнцу
представленный,
он будет закрыт для усатых саш,
но миру свободному явленный.

* * *

Если вдруг, не приведи господь,
мне придётся жить в казённом
доме,
я не стану чепуху молоть,
говоря о том, что незнакомо.

Я не буду паханом. Зачем?
Но, хоть каплю гордости имея,
постараюсь отсидеть, как все,
только что б душою не робея.

Если ж там случится в паханах
«старший брат» мой, русский из
Тамбова,
я ему однажды тихо в пах
засажу «перо», как в строчку —
слово.

Я шепну в его последний миг:
«Это, «брат», за «Белую Россию»,
за её уже не белый лик,
за её истерзанность и крик
и за свой москальский глупый шик
в этом месте ты склоняешь выю».

И пускай объявят мне конец
паханы все, русские по крови,
кто-же всё же скажет: молодец!
И нахмурит выцветшие брови.
30.11.95 г.

# ВОБРАЗЫ БЕЛАРУСІ

Ад 1 да 25 сакавіка, у Галярэі Вальдэмар А. Шміт Вартбурскага Цэнтру мастацтваў (Waldemar A. Schmidt Gallery of the Warburg Fine Arts Center) у штаце Аёва мела месца выстаўка пад назовам «Чаму-ж нам не сьпяваць выяўленчыя й музычныя вобразы Беларусі». Выстаўка знаёміла наведальнікаў з культурай народу, якая дасюль не была даступнай мясцоваму насельніцтву гэтага амэрыканскага штату. Калекцыя этнаграфічных выяваў, краявідаў, рытуальных традыцыяў і гарадзкіх канцэртаў сьведчылі аб складнасьці, прыгажосьці ды іроніі музычнага жыцьця ў сёньняшняй Беларусі. Бачанае запрашала гледача пазнаёміцца таксама з праблемамі, перад якімі апынуліся паказаныя на здымках людзі, ды з мужнасьцяй зь якою яны змагаюцца з наступствамі экалягічнай катастрофы, эканамічнай бядой ды хуткімі зьменамі ў сфэры культуры.

Аглядаючы выстаўку наведальнікі ўспрымалі, адначасна, беларускія традыцыйныя мэлёдыі, або беларускі рок. Музыка ў кантэксьце выстаўкі выяўлечнага мастацтва прыемна зьдзіўляла гледачоў: камбінацыя гукаў й вобразаў канцэнтравала ўвагу наведальнікаў і была вельмі добра прынятая як «унікальнае, эмацыянальнае дасьведчаньне».

Аўтар фатаграфіяў, Марыя Паўла Сурвілла, выбрала здымкі й музычныя запісы зробленыя падчас сваіх падарожжаў у Беларусь і ў Беласточчыну у 1989-1995 гадох. Этнамузыкалёг на прафэсіі, Марыя Паўла вывучае сувязі між культурнымі зьменамі й музычнай творчасьцяй у Беларусі, у Беласточчыне й у беларускай дыяспары. Натхненьне для свай працы чэрпала яна зь візуальных як і гукавых элемэнтаў культурнага жыцьця.

«Паколькі фатаграфія была акрэсьленая маім дасьледваньнем музычнага выкананьня, я ўважала што здымкі павінны быць прадстаўленыя з музычным агучэньнем, якое даець ім форму. Здымкі ўхапілі аспэкты сялянскага й гарадскога беларускага жыцьця, а таксама характарыстыкі рок музыкантаў. Шмат здымкаў іранічныя. Яны толькі намякаюць на запал і зьбянтэжанасьць перажываныя беларусамі ў іхным намаганьні дастасавацца да новай эканамічнай і палітычнай сытуацыі, да наступстваў Чарнобыля ды выявіць акрэсьленьне, *што* азначае быць Беларусам у 1990 гадох.»

М. П. Сурвілла выкладае гуманістыку ў Wartburg College і заканчвае свой дактарат на Мічыганскім Унівэрсытэце.

**Эрык Вахманн**

## СЬВ. ПАМЯЦІ АРКАДЗЬ ХАРАВЕЦ



Сьветлай памяці Аркадзь Харавец адыйшоў на вечны супакой, амаль год часу пасьля свайго брата Аляксандра, 10 красавіка 1996 году, у Ашаве, Антарыё.

Аркадзь нарадзіўся 20 лютага 1929 году на Палесьсі ў вёсцы Хваросна, якая знаходзіцца прыблізна на поў-дарозе з Лагішына да Целяханаў, непадалёк ад вёскі Валішча. Ягоныя бацькі займаліся гаспадаркай. У часе Другой сусьветнай вайны ў іхнай мясцовасьці завялася вялікая бальшавіцкая партызанка, якая не давала супакою мірнаму насельніцтву, забіраючы ад людзей харчы й вопратку.

Калі надыходзіў расейска-бальшавіцкі фронт, целая сям'я Хараўцоў — бацькі, чатыры сыны й дачка апынуліся ў Нямеччыне ў лягерах ДП. У Нямеччыне найстарэйшы сын Уладзімер ажаніўся з Галінай і ейная цётка забрала іх у ЗША, а Аляксандар і Аркадзь у 1948 годзе выехалі па кантракту ў капальні золата ў Канаду. Бацькі з двума малымі дзяцьмі прыехалі ў Канаду год пасьля, ў 1949 годзе. Калі малодыя сыны адпрацавалі двухгадовую ўмову у капальнях ў Наранда (Noranda) на поўначы ў Квэбеку (Quebec) уся сям'я пераехала ў Таронта, дзе далучылася да беларускай грамады, якія была ўжо зарганізаваныя. Уладзімер асяліўшыся з жонкай Галінай у Соўтс Рывер (South River) таксама далучыўся да месцы да беларускага жыцьця.

Аркадзь быў скромным сябрам у грамадзкім і царкоўным жыцьці. Дапамагаў паводле сваіх магчымасьцяў, браў удзел у імпрэзах. Заахочваў іншых.

Аркадзь не апусьціў амаль ніводнай Вялікоднай Багаслужбы ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта. Першы з крыжам або іконай Уваскрашэньня ішоў у Крэсным Ходзе. Ён і ў гэтым годзе прыехаў у царкву на Вялікдзень і яму на разьвітаньне адсьпявалі пахавальнае Хрыстос Уваскрос.

Няхай будзе яму пухам канадыйская зямля.

**Сябры**

## У ГОМЛІ ГАВОРАЦЬ СЬЦЕНЫ...

Гэткая старая й апрабаваная форма грамадзкага супраціву, як пісаньне лёзунгаў і заклікаў на сьценах, можа стацца на Беларусі папулярнай.

На бачынах газэты «Эконологический вестник» (№ 3, 1966) жыхар Гомеля В. Булкін абураецца засьмечанасьцю гарадзскіх вуліц ды насьценнымі «нацыяналістычнымі» надпісамі, якія, на яго думку, псуюць эстэтычнае асяродзьдзе сапраўды прыгожага гораду па-над Сожам. Дапішчык згадвае: **«Колькі сьцен і забораў** (плотаў – Рэд.) **у горадзе абмалявана заклікамі «Жыве Беларусь», «Слава Воршы 1514 г.», «БНФ супраць фашызма» і гэтак далей! Ідзеш раніцай на працу, на вучобу і ў цябе нявольна ў галаве адкладваюцца гэтыя заклікі на ўвесь дзень. Каму паважаныя нацыяналісты (прабачце, калі я вас падкрыўдзіў), патрэбныя яны? Толькі вам. Дык пішыце іх у сябе дома, у кватэрах на шпалерах і дзівіцеся сваімі маляванкамі».**

Цытата сьведчыць, што жыхараў Гомеля хвалюе ня адно вулічны бруд, але й незалежнасьць бацькаўшчыны, што ва ўмовах адсутнасьці свабоды слова ў краіне адбіваецца ў насьценных надпісах, грамадзянскія заклікі якіх, «нявольна адклаўшыся на ўвесь дзень» ў галовах многіх гараджанаў, падобна як у галаве В. Булкіна, дапамогуць некаторым зь іх задумацца ня толькі пра вуліцы ці гарады, але й пра **БЕЛАРУСЬ**.

**Ю.В.**

### *ЗБОР НА ІНВАЛІДАЎ Ў БЕЛАРУСІ*

| | |
|---|---|
| Барысавец Л. | ам. д. 1 |
| Бахар М. | 5 |
| Варанцова Т. | 20 |
| Вініцкая К. | 50 |
| Жыдовіч М. | 5 |
| Занковіч Н. | 20 |
| Запруднік Я. і Н. | 100 |
| Кавыль М. | 5 |
| Камінкова В. | 10 |
| Касьцюк Р. | 10 |
| Літаровіч Л. і Л. | 50 |
| Кіпель В. і З. | 100 |
| Навіцкі М. | 20 |
| Суліван М. | 5 |
| С.В. | 50 |
| Хор Еўфрасіньнеўскай царквы ў Саўт-Рывэры | 50 |

Збор працягваецца. Усім ахвярадаўцам шчырая падзяка!

**Н.З.**

### Фінансавая справаздача за травень 1996
*ад Трыгубовіча Сяргея*

| | |
|---|---|
| Кіпель А. | ам. дал. 240 |
| Гайдэль І. | 100 |
| Плескач В. | 75 |
| Дубяга А. | 40 |
| Скурат Г. | 30 |

### На дзейнасьць Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ахвяравальні:

| | |
|---|---|
| Калоша, К. | ам. дал. 80 |
| Вініцкая, К. | 80 |
| Калесьнік, К. | 70 |

Ахвяравальнікам — шчырая падзяка.

**Асаблівае-ж прызнаньне й падзяка Управы БІНІМу належыцца спадарству Ваньдзе й Міхасю Махначам**

якія ахвяравалі на дзейнасьць БІНІМу 2,000 (дзьве) тысячы ам. дал.

### Падпіска й ахвяраваньні на кнігу *Юркі Віцьбіча: Антыбальшавіцкія паўстаньні й партызанская барацьба на Беларусі:*

| | |
|---|---|
| Мітрапаліт Мікалай | ам. дал. 150 |
| Стагановіч, Л. і сям'я у памяць лістападаўцаў-антыкамуністаў | 100 |
| Гутырчык, Л. | 20 |
| Пеляса, У. | 25 |
| Машанскі, У. | 10 |
| Грэбень, М. | 30 |
| Швэдзюк, М. | 20 |
| Шабовіч, С. | 60 |
| Сядура, І. | 50 |
| Рамук, В. і В. | 200 |
| Наўмовіч, М. | 94 |
| Канчэўскі, П. | 5 |
| Любанські, К. | 5 |
| Пітушка, Э. | 25 |

*З жыцьця ў Чыкага*

## 10-Я ЎГОДКІ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ КАТАСТРОФЫ

26-га красавіка ўкраінскае грамадзтва Чыкага адзначыла 10-я ўгодкі Чарнобыльскай аварыі. Вечарам гэтага дня была наладжаная прэсавая канфэрэнцыя ў Украінскім культурным цэнтры. Пасьля чаго была адпраўленая Экумэнічная багаслужба ўкраінскім грэка-каталіцкім біскупам Вівчаром у грэка-каталіцкай катэдры Сьв. Мікалая ў асысьце шматлікіх грэка-каталіцкіх і праваслаўных сьвятароў.

Сп-ня Вера Рамук ад імя Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага ў сваёй прамове нагадала пра балючыя праблемы выкліканыя Чарнобыльскай эсплёзыяй у Беларусі, дзе 70% радыяактыўнага пылу пакрыла 1/4 тэрыторыі і шкодна падзеяла на здароўе 1/5 насельніцтвы ды насьледкі якога яшчэ прадбачваюцца ў будучыні.

## 36 ГАДОЎ РАДЫЯПЕРАДАЧАМ «НЁМАН»

З нагоды 36-й гадавіны існаваньня Беларускіх радыёперадачаў «Нёман» губэрнатар штату Ільліной Джым Эдгар пераслаў кіраўніку гэтых перадачаў Нікадэму Жызьнеўскаму ліст, у якім выказвае сваё ўзнаньне.

Губэрнатар зазначыў, што праграма «Нёман» дбае пра сваю мову, музыку і спадчыну, прыносіць весткі ды паведамленьні аб бягучых падзеях. Этнічныя сродкі масавай інфармацыі іграюць важную ролю ў зразуменьні розных культур. Яна ёсьць мастом між гэтымі культурамі ў выяўленьні фактаў і ўзгадаваньні. Праграма «Нёман» можа ганарыцца, што асягнула шмат у гэтым напрамку.

Ад імя грамадзянаў штату Ільліной губэрнатар пажадаў кіраўніку праграмы «Нёман» з гэтай нагоды ўсяго найлепшага ды посьпехаў у будучыні.

**Др. В.Р.**

## СТРЭЛ У ДЭПУТАТА

Ноччу, з 13 на 14 чэрвеня беларуская міліцыя абстраляла з аўтамата легкавую машыну дэпутата парляманта і сакратара Дзяржаўнага Гаспадарчага Суда Віктара Ганчара. Кароткі час Ганчар быў віцэ-прэм'ерам на ўрадзе Лукашэнкі, але сыйшоў у адстаўку ды цяпер знаходзіцца ў апазыцыі да прэзыдэнта.

Міліцыянты стралялі з аўтамата, калі машына знаходзілася перад домам В. Ганчара. Была параненая асыстэнтка дэпутата. Міліцыянты спрабавалі ўцячы зь месца здарэньня, але ўсё ж былі затрыманыя. Паводле іхных тлумачэньняў, машыну дэпутата перабльталі з машынай крымінальнага злачынца. Па факце здарэньня вядзецца следства.

## ВЫГНАЦЬ ЗЛОГА ДУХА НЕ ЎДАЛОСЯ...

Як паведамлялася раней, беларуская моладзь Вільні спрабавала ў Дзень Волі 25-га Сакавіка сёлета правесьці акцыю з назовам «выгнаньне антыхрыста» з будынку амбасады Рэспублікі Беларусь у Летуве. Тады акцыя не адбылася з прычыны забароны з боку гарадскіх уладаў.

Летувійская газэта «Республика» (16.04.96) паведаміла пра другую спробу, аднак і гэтым разам няўдалую. 13-га красавіка група моладзі зь беларускім і летувіскім сьцягамі, выгалошваючы лёзунгі «Жыве Беларусь» накіравалася ў бок беларускай амбасады. За 25 мэтраў перад будынкам групу спыніла паліцыя, неглядзячы на тое, што папярэдне арганізатары акцыі атрымалі адпаведны афіцыйны дазвол. Высьветлілася, што моладзь на чале з В. Савянковым кіравалася да будынку амбасады з мэтай урэшце «выгнаць злога духа». З групай быў сьвятар аднае зь віленскіх цэркваў, які мусіў выканаць абрад «выгнаньня» й асьвяціць будынак.

Гэтым разам групу не прапусьцілі да будынку, бо адміністратар Вільні забараніў акцыю з тлумачэньнем, што «амбасада Беларусі была супраць». Спыненыя юнакі, аднак, правялі падобную на мітынг імпрэзу. Валер Савянкоў назваў амбасаду Беларусі «гняздом КГБ», наракаў, што яна не дапамагае віленскай беларускай школе, паўтараючы, што ў будынку пасяліўся «злы дух».

Ва ўсёй гэтай гісторыі найбольш дзівіць надзвычайнае спрыяньне й «чуласьць» віленскай гарадзкое адміністрацыі да меркаваньняў і поглядаў амбасады Рэспублікі Беларусь.

Тым часам, дазволы на акцыі пратэсту перад будынкамі амбасадаў Беларусі лёгка былі атрыманыя ад гарадзкое адміністрацыі Варшавы, Беластоку, Масквы, Вашынгтону, Кіеву ды інш.

«Злога духа», такім чынам, выгнаць не ўдалося...

**Ю.В.**